**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 4.36, 21.43, 17.07;
Віцебск — 4.18, 21.42, 17.24;
Магілёў — 4.26, 21.32, 17.06;
Гомель — 4.32, 21.21, 16.49;
Гродна — 4.53, 21.57, 17.04;
Брэст — 5.03, 21.48, 16.45.

**МЕСЯЦ:**
Поўня 15 чэрвеня.

**ІМЯНІНЫ:**
Мітрафана, Мяфодзія, Северына, Засімы;
Лаўры, Адольфа.



# ЗВЯЗДА

17 ЧЭРВЕНЯ 1992 г.
серада, № 120 (21898)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель



## ГРАНІЦЫ ПРАЗРЫСТЫЯ, АЛЕ НЕ ДЛЯ ЗЛАЧЫНЦАЎ

Пад старшынствам Вячаслава Кебіча 15 чэрвеня адбылася нарада, у якой удзельнічалі намеснікі Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і адказныя работнікі ўрадавага апарату. Абмеркаваны публікацыі, якія паявіліся ў апошні час у беларускіх сродках масавай інфармацыі, прысвечаныя «імпарту» ў нашу рэспубліку злачыннасці з іншых краін СНД, у першую чаргу з каўказскага рэгіёна. Адзначана, што ў артыкулах «Таксіст — прафесія небяспечная», «Даходнае месца: «Зброю, наркотыкі і валюту на стол!» («Рэспубліка» за 20 і 11 мая), «Закаўказская багна» («На страже Октября» за 26 мая), «Закаўказскі цень становіцца ўсё больш цёмным» («Народная газета» за 12 чэрвеня, «Советская Белоруссия» і «Белорусская нива» ва 13 чэрвеня), а таксама ў артыкуле «Паўднёвы госць...», апублікаваным у «Звяздзе» яшчэ 10 сакавіка гэтага года, узняты праблемы выключнай важнасці, звязаныя з забеспячэннем стабільнасці і правапарадку ў Беларусі, узмацненнем бяспекі грамадзян, неабходнасцю актывізацыі барацьбы са злачыннасцю.

«Асаблівы акцэнт, зроблены ў гэтых артыкулах на злачынных элементах з каўказскіх рэспублік, якія найбольш нахабна парушаюць законы суверэннай Беларусі, — падкрэсліў Вячаслаў Кебіч, — не павінен разглядацца ў якасці палітычнай кампаніі, накіраванай на разрыў міждзяржаўных і міжэканамічных сувязей Беларусі з краінамі каўказскага рэгіёна і ні ў якім разе не павінен адбіцца на традыцыйных дружалюбных сувязях паміж нашымі народамі».

Тым не менш узмацненне актыўнасці злачынных груп з гэтага рэгіёна ў рэспубліцы ў наяўнасці. Факты сведчаць аб тым, што ў змову з імі нярэдка ўступаюць работнікі гандлю, транспарту, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, некаторых прамысловых прадпрыемстваў. «Скрозь пальцы» на гэту праблему глядзяць кіраўнікі названых галін, супрацоўнікі праваахоўных органаў. Хоць, на што звярнуў увагу прэм'ер-міністр, іменна кіраўніцтва МУС першым узняло гэтыя пытанні.

По распараджэнню кіраўніка ўрада ў той жа дзень ва ўпраўленні па пытаннях правоў грамадзян, грамадскай бяспекі і абароннай работы Савета Міністраў Беларусі адбылася нарада кіруючых работнікаў Міністэрства юстыцыі, КДБ, МУС, пракуратуры, пагранвойск, мытні, Мінжылкамунгаса, аб'яднання гасцінічнай гаспадаркі Мінгарвыканкома і рада іншых службаў. На ёй былі абмеркаваны канкрэтныя меры па наводзенню парадку ва ўліку асоб, якія часова прыязджаюць у Беларусь. Адзначана, што сама праблема ў многім выклікана недасканаласцю заканадаўчых нормаў (а то і наогул адсутнасцю такіх), якія павінны рэгламентаваць уезд і знаходжанне ў нашай рэспубліцы замежных грамадзян. Прыводзіліся шматлікія прыклады злачынных дзеянняў «гасцей», накіраваныя на падрыў прававой стабільнасці і эканамічнага суверэнітэту Беларусі.

Прызнана мэтазгодным звярнуцца ва ўрад з прапановай аб увядзенні ў нашай рэспубліцы візавага рэжыму для грамадзян усіх замежных дзяржаў, акрамя тых краін, з якімі будуць заключаны спецыяльныя двухбаковыя і шматбаковыя пагадненні. Абмеркаваны канкрэтныя крокі па ўзмацненню на граніцах рэспублікі пагранічнага, мытнага і міліцэйскага кантролю, а таксама пашпартнага рэжыму ў гасцініцах і іншых месцах пражывання гасцей. Падтрымана ідэя стварэння на важнейшых транспартных магістралях спецыяльных аддзелаў міліцыі, падпарадкаваных тэрытарыяльным органам унутраных спраў. Выказана сумненне ў мэтазгоднасці існуючай цяпер колькасці авіяцыйных рэйсаў па некаторых паўднёвых напрамках, дзе пасажырамі на 90 працэнтаў з'яўляюцца грамадзяне зусім не Рэспублікі Беларусь.

Усе прапановы, якія паступілі ад удзельнікаў нарады і адобраны імі, будуць разгледжаны на адным з бліжэйшых пасяджэнняў Прэзідыума Савета Міністраў Беларусі, які прыме спецыяльную пастанову.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь — БЕЛТА.**

БІЗНЕС І ПАЛІТЫКА

## КАЛІ НЕ СЛУХАЮЦЬ КАСАНДРУ...

### ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА ТРЭЦЯГА З'ЕЗДА САЮЗА ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Вялікая «інтрыга рынку» закручана сёння ў нас да адказу. Яе пастаянна падсілкоўваюць дадатковыя інтрыгуючыя моманты. Напрыклад, такія: чарговы з'езд Саюза прадпрымальнікаў сабраўся, можна сказаць, пры зачыненых дзвярах — работнікі сродкаў масавай інфармацыі дапушчаны на яго практычна не былі. Тлумачэнне гэтаму звычайнае: прадстаўнікі айчыннага бізнесу хацелі мець развязаныя рукі і поўную свабоду выказванняў, захаваць у сакрэце сваю тактыку.**

**Затое палітыка-эканамічная стратэгія дзелавых колаў сакрэтам не з'яўляецца і засноўваецца на фундаментальным вывадзе: Беларусь па-ранейшаму з'яўляецца рэгіёнам, неспрыяльным для прадпрымальніцтва. Віна за гэта ўскладаецца ў асноўным на органы заканадаўчай улады...**

Адна з асаблівасцей цяперашняга часу — вялікі попыт на прадказальнікаў. Адчуваецца, аднак, што большасці з іх наша па-ранейшаму пераважна атэістычнае грамадства не верыць. Ды што там! Нават прарочую Касандру, якую мы памятаем са старажытнага эпасу, у свой час не хацелі слухаць, з-за чаго, між іншым, і загінула Троя.

Ну а калі папярэджанні не з'яўляюцца плодам легкаважных фантазій, а заснаваны на рэальным аналізе мінулых і цяперашніх падзей? Ці трэба ставіцца да іх з прывычнай лёгкасцю: маўляў, неяк жа будзе?

Не ведаю, як каму, а мне здаецца: апошнім часам у нас ёсць толькі два больш-менш надзейныя, скажам так, «аракулы», перспектыўныя вывады якіх пераважна спраўджваюцца — Народны фронт і прадпрымальніцкія структуры. Дык вось, прагноз апошніх вельмі несуцяшальны. Падатковая палітыка сёння такая, што прымушае вытворцаў літаральна наганяць цэны на сваю прадукцыю, збыць жа яе яны не могуць. Яшчэ крыху — і прадпрыемствы захлісне таварная маса. Адным словам, на парозе — калапс эканомікі, за якім — масавае беспрацоўе. Без адпаведнай карэкціроўкі эканамічнага заканадаўства ўжо ў жніўні-верасні можа пачацца абвальнае звальненне рабочых і служачых з дзяржаўных прадпрыемстваў. Прадастаўленне людзям вымушанага водпуску, няпоўны рабочы тыдзень — гэта толькі прэлюдыя.

Што б там пакуль ні гаварылі ў грамадстве пра «так званых дзялкоў-прадпрымальнікаў», але сёння лёс вялікай колькасці людзей пачынае напрамую звязвацца менавіта з дзейнасцю новых прадпрымальніцкіх структур. Толькі яны здольныя ў гэтых умовах стварыць новыя рабочыя месцы. Аднак рукі ў іх звязаны (і пра гэта ўжо не раз гаварылася і пісалася) прынятымі ў нас эканамічнымі законамі.

Магчыма, заканадаўцы, ад якіх многае залежыць, успрымуць усё гэта, як тыя ж прадказанні-заклінанні. Тады прывядзём словы, сказаныя яшчэ да з'езда прадпрымальнікаў саветнікам старшыні Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця А. Бугровым:

— Не менш як 60 працэнтаў сродкаў па кожным праекце для краін Усходняй Еўропы і СНД банк будзе ўкладваць у прадпрыемствы менавіта прыватнага сектара. Астатняе пойдзе на развіццё інфраструктуры — новых тэхналогій, умацаванне базы дробнага і сярэдняга бізнесу, прыватызацыю.

Ці трэба даказваць, што без заходніх інвестыцый пабудаваць рыначную эканоміку нам не ўдасца? Ці трэба напамінаць, што любога інвестара цікавяць дзве рэчы: палітычная стабільнасць у нашай дзяржаве і спрыяльнасць для бізнесу эканамічнага заканадаўства? Магу запэўніць: ведаючы пра падатковую палітыку Беларусі, пра засілле ўладароў-манапалістаў, звязаных і павязаных з мясцовымі органамі ўлады, замежныя трымальнікі валюты да нас усур'ёз не пойдуць. Будуць чакаць змяненняў, чакаць прыватызацыі і раздзяржаўлення ўласнасці.

Дык дзе яна, прыватызацыя, адзіны, напомнім, шлях да стварэння новых рабочых месцаў і змякчэння сацыяльнай напружанасці? Яна яшчэ толькі ў праектах і задумках заканадаўцаў з Вярхоўнага Савета. Зрабіць нешта канкрэтнае ў гэтым напрамку яму, відаць, перашкодзілі чатырохмесячныя канікулы, так недарэчна наладжаныя беларускім парламентам. У той час, калі з-за складанай абстаноўкі, здавалася б, трэба працаваць дзень і ноч. На невясёлыя, прызнацца, думкі наводзіць гэты факт...

Цяпер ужо ніхто не будзе падазраваць наш Вярхоўны Савет у так званым «хвасцізме» (намёк на тое, што ён часта ішоў у кільватэры палітыкі расійскага парламента). Апошні, паводле дакладнай інфармацыі, пагадзіўся ўжо на тое, каб знізіць узровень падатку на дабаўлены кошт удвая, і гэта знамянальна! Нічога падобнага са сцен ВС Беларусі не чуваць. Як і таго, што наш урад нарэшце атрымаў магчымасць аказваць уплыў на падатковую палітыку — у гэтым плане ён наогул самы бясправы з усіх урадаў краін СНД.

Затое ёсць звесткі з месцаў аб тым, што доўгачаканы працэс прыватызацыі нарэшце... «пайшоў». У выглядзе паўзучай «прыхватызацыі», якую ўпарта і паслядоўна ажыццяўляюць наменклатуршчыкі, што стаяць ля рычагоў гаспадарчай і мясцовай улады. Нашы айчынныя карупцыянеры без усякага закона (а, навошта ён ім?) выдатна прыстасаваліся да «справы». Гэтыя «прадпрымальнікі» маюць усе магчымасці «прыватызаваць» вытворчасці, якімі кіруюць, у 20—30 разоў танней, чым яны сапраўды каштуюць.

Паглядзіце, у прыватнасці, колькі рэстаранаў і кафэ сёння стаяць на нейкім таямнічым «рамонце». Гэта ідзе адпаведная «работа»: радавы персанал запалохваецца, з незадаволенымі абяцаюць «разабрацца», калі тыя будуць перашкаджаць. І разбяруцца, дайце яшчэ крыху часу. Дык дзеля каго і чаго ў рэспубліцы зацягваецца прыняцце цывілізаванага заканадаўства аб прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці, якая з'яўляецца набыткам усяго народа?

Падобныя з'явы нашага перакошанага рынку на сустрэчы прадпрымальнікаў атрымалі трапную назву «карупцыі па-беларуску». Трывожна гучалі факты аб «афармленні» ценявога бізнесу, аб пранікненні мафіёзных структур у таварыствы з абмежаванай адказнасцю, аб тым, што ў мясцовых выканкомах рэгіструюць вельмі сумніцельныя «прадпрыемствы». Галоснасці ж у гэтых справах — нуль. Бяссільнымі тут чамусьці аказаліся і Мінюст, і Мінфін, і Вярхоўны Савет з Саўмінам. А то, можа, не пашкодзіла б разабрацца, колькі капіталаў таямнічымі шляхамі перапрaвілі ў Мінск навяўленыя мільянеры-чыноўнікі, напрыклад, з Брэста?

Канешне, усякія канікулы (а дакладней, недаравальная спячка) маюць уласцівасць калі-небудзь заканчвацца. Негатыўныя факты стануць вядомыя ўсім. Пра рэакцыю працоўных, якія ўсвядомяць, хто і як падмануў і абрабаваў іх, можна здагадацца. Што мы тады будзем гаварыць пра нашу хвалёную сацыяльна-палітычную стабільнасць? Не трэба быць Касандрай, каб прадказаць гэта...

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**



**16 чэрвеня па ініцыятыве Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі адбылася сустрэча вайсковых часцей, прадпрыемстваў, арганізацый, навучальных устаноў Узброеных Сіл з кіраўніцтвам Міністэрства абароны, народнымі дэпутатамі, прадстаўнікамі ўрада, міністэрстваў і ведамстваў. Абмеркаваны пытанні абароны сацыяльна - эканамічных і працоўных праў рабочых і служачых вайсковых часцей.**

***

По запрашэнню Вярхоўнага меджліса (парламента) Азербайджана гэтую краіну наведалі народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь В. Кучынскі і С. Навумчык. У Нахічэванскай аўтаномнай рэспубліцы яны назіралі за ходам прэзідэнцкіх выбараў. Як паведаміў праграме «Радыёфакт» В. Кучынскі, у тых акругах, дзе пабывалі народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь, ніякіх парушэнняў закона не назіралася. Выбары прайшлі дэмакратычна. Пад час знаходжання ў Азербайджане адбылася сустрэча беларускіх дэпутатаў з Г. Аліевым, які адзначыў, што за развал СССР і вайну паміж Азербайджанам і Арменіяй персанальную адказнасць нясуць М. Гарбачоў і тагачаснае кіраўніцтва.

В. Кучынскі паведаміў таксама, што на тэрыторыі Азербайджана па-ранейшаму нясуць службу нашы землякі. У прыватнасці, у пагранвойсках — генерал-маёр Слабашэвіч і разам з ім яшчэ 36 афіцэраў. Яны звярталіся ў БВА з просьбай вярнуць іх на радзіму, аднак пытанне пакуль не вырашана.

***

**У сродках масавай інфармацыі паведамлялася аб злачынным нападзе ў Венгрыі на народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь Л. Тарасенку. Справядлівасць перамагла. З міністэрства ўнутраных спраў Венгрыі атрыманы факс наступнага зместу:**

**«Паважаны пан народны дэпутат! Дзякуючы вашай эфектыўнай дапамозе паліцыя затрымала дзвюх асоб з тых, што ўчынілі аграбленне. Па іх справе паліцэйскі разбор закончаны і матэрыялы перададзены кампетэнтным органам. Пракуратура, як мяркуем, прапануе судовым органам Расійскай Федэрацыі вынесці рашэнне па гэтай крымінальнай справе. Двух затрыманых злачынцаў венгерскія паліцэйскія ўлады ўжо выгналі з краіны...»**

***

Здаецца, неўзабаве жыхары Пінска сваім гасцям будуць дэманстраваць не помнікі, а прыклады іх абразы, глумлення над імі і знішчэння. Так, на цэнтральнай плошчы скульптура У. Леніна не адмыта ад белай фарбы і сёння. Бюст Ф. Дзяржынскага заліты чарнілам. Чорны пэндзаль прайшоўся па камені ў гонар барацьбітоў за савецкую ўладу. Невядомай рукою сарваны літары на помніку камсамольцу І. Чуклаю. І вось апошні факт. Незадоўга да чарговай гадавіны першага партызанскага бою на Беларусі (гэта было ў чэрвені 1941 года ля Пінска) тут аказаўся ўшчэнт знішчаны пастамент пад будучы помнік партызанам і падпольшчыкам.

***

**У Мінюсце ў рэшце рэшт зарэгістравана партыя камуністаў Беларусі. Сустаршыня палітвыканкома ПКБ В. Чыкін адзначае, што яго партыя адрозніваецца ад КПБ сваімі праграмнымі мэтамі. «ПКБ мае свой статут, новае кіраўніцтва. Галоўная мэта партыі — аб'яднанне ў барацьбе супраць эксплуатацыі ва ўсіх яе праявах, пабудова бяскласавага грамадства сацыяльнай справядлівасці».**

**В. Чыкін выказаў думку, што любая камуністычная партыя, калі яна сапраўды камуністычная, — гэта партыя заўтрашняга дня.**

***

Амаль праз 30 гадоў «пад дахам дома свайго» ў Маладзечна з'явіўся Ю. Антонаў — вядомы музыкант і выканаўца папулярных песень. Справа ў тым, што тут, на яго бацькаўшчыне, дзе будучы артыст займаўся ў школе і атрымаў першыя ўрокі музыкі, пачаліся здымкі аўтабіяграфічнай стужкі.

## АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ: НА ПАЎДАРОЗЕ СПЫНЯЦЦА НЕ ТРЭБА

**Мы паведамлялі ўжо аб тым, што актывісты рэгіянальнага аддзялення Ліберальна-дэмакратычнай партыі Савецкага Саюза (?!), Усебеларускага славянскага сабора, некаторых іншых партый і рухаў спрабавалі пікетаваць будынак Міністэрства замежных спраў рэспублікі. Лозунгі, з якімі выйшлі на гэтую акцыю пікетчыкі, заклікалі выступіць у абарону народаў Югаславіі, Прыднястроўскай рэспублікі, Крыма і г. д. І вось сярод усяго іншага патрабаванне: прызнаць на тэрыторыі Беларусі ў якасці дзяржаўнай рускую мову. Магчыма, камусьці здасца, што гэтае пытанне не такое ўжо важнае і вострае: маўляў, з-за яго не льецца кроў. Але ўсё ж мы вырашылі спытаць: што думае народ?**

**Міхаіл КРУГЛОЎ, сацыёлаг:** Пытанне гэта ў нашай рэспубліцы не павінна выклікаць спрэчак. Тут усё зразумела: ёсць закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы, ёсць Закон аб мовах. Вось іх і трэба выконваць. Тры гады ўжо дзейнічаюць гэтыя заканадаўчыя акты, калі тут можна прымяніць слова «дзейнічаюць». Бо пакуль што асаблівых поспехаў няма: відаць, у бліжэйшы час і не дачакаемся. Між тым, сацыялагічныя апытанні паказваюць, што насельніцтва рэспублікі ў цэлым прыхільна ставіцца да дзяржаўнасці беларускай мовы.

**Вадзім КІРЭЕЎ, актывіст ЛДП:** Мы не прызнаём развалу Савецкага Саюза, учыненага насуперак волі пераважнай большасці насельніцтва краіны. Пакуль у нас была адна дзяржаўная мова — усё было добра. Як толькі ў рэспубліках актывізаваліся сепаратысцкія рухі (а пачалося ўсё якраз з вылучэння моўнага пытання), адбыўся развал. Вядома, мы не супраць беларускай мовы: яна павінна развівацца, на ёй павінны выдавацца газеты, кнігі і г. д. Але так ужо склалася ў нас, што вядучая роля належыць рускай мове. І ніякія законы тут нічога зрабіць не змогуць. Па гэтаму пытанню лепш за ўсё трэба было б правесці рэферэндум, каб народ сам вызначыў...

**Алег ТУРОК, настаўнік вячэрняй школы:** У Беларусі быў прэцэдэнт, калі адразу чатыры мовы з'яўляліся агульнаўжывальнымі. Але ж сітуацыя сем дзесяцігоддзяў назад была зусім іншай. Беларусізацыя ішла значна шпарчэй, наша мова на поўную моц прымянялася ва ўсіх установах, школах, інстытутах, у афармленні вуліц. А што цяпер? Тры гады нешта спрабуюць зрабіць — усё марна. Дзяржаўнае беларускае радыё «па просьбах заказчыка» перадае рэкламу па-руску. Ды з якога гэта часу нейкія «заказчыкі» сталі дыктаваць сваю волю? Хочацца па-руску — хай пасылаюць у Маскву. У нас цяпер усе думаюць толькі пра грошы, пра духоўнасць — ніхто. Якое ж тут адраджэнне?

**Леанід СВІРЫДАЎ, інжынер-канструктар:** Адназначна стаю за беларускую мову. Хоць я не беларус, нарадзіўся і вырас у Пскове, а сюды прыехаў гадоў пяць назад. Адразу вырашыў — мову вывучу. Проста мне было цікава чытаць у арыгінале Быкава, затым Караткевіча. Цяпер ужо не адчуваю ніякага дыскамфорту. Вядома ж, адраджэнне беларускасці — справа нялёгкая. Тут нельга, па-мойму, устанаўліваць нейкія часовыя рамкі: 5 гадоў ці 10. Перш чым народ загаворыць на беларускай мове, ён павінен навучыцца думаць па-беларуску. А гэта, магчыма, удасца ўжо не нашаму пакаленню. Але будзем аптымістамі—на паўдарозе спыняцца не трэба.

**Падрыхтаваў Аляксандр ХРАМАЎ.**



**У маі споўніўся год, як прыйшоў працаваць у Каменіцкае лясніцтва Мікалай Іванавіч Гулько. Спадчына яму дасталася, адразу скажам, незайздросная. У свой час гэтае лясніцтва было расфарміравана, а ў яго будынку пасяліліся шабашнікі, якія працавалі ў суседнім калгасе. За некалькі гадоў іх пражывання будынак набыў вельмі ўбогі выгляд. Такім яго і прыняў Мікалай Іванавіч.**

**Сёння ў пакоях чысціня і ўтульнасць. Прыбудавана вялікая веранда, а ў двары ўжо амаль закончана альтанка, у якой у пагодныя дні збіраюцца ў ляснічага леснікі. І ўсё гэта сваімі рукамі. Клопатаў у М. І. Гулько нямала: шэсць з лішнім тысяч гектараў лесу — гэта не жартачкі. Ды якога лесу! Ёсць нават цэлы дубовы гай на беразе Бярэзіны, куды на выхадныя прыязджаюць адпачываць гараджане. Дарэчы, у будучым тут плануецца будаўніцтва дзіцячага санаторыя.**

**Планы ў Мікалая Іванавіча вялікія: пабудаваць будынак кантoры, Дом ляснічага (ужо закладзены і фундамент). Добра і тое, што будзе каму з часам перадаць пачатую справу — свайму маладому памочніку Паўлу Іванавчу Трыпуцю.**

**Юрый БОНДАРАЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: ляснічы Каменіцкага лясніцтва М. І. Гулько і яго памочнік П. І. Трыпуць.**

**Фота аўтара.**

**Асіповіцкі раён.**

## А САСІСКІ—НАДЗІВА СМАЧНЫЯ...

Сасіскі, з гэткай залацістай абалонкай, крыху падвэнджаныя, былі не тое што апетытныя — яны былі проста непаўторныя на смак.

— Звычайныя, нармальныя сасіскі, — зазначыў менеджэр фірмы «Зайдэльман» Герман Абель.

Сасіскі рабіліся прама на вачах — у выставачнай зале знакамітай «кветкі» «Мінскэкспа» — Гандлёва-прамысловай палаты Беларусі на зручным, кампактным абсталяванні. Прадукцыйнасць — 1,5 тоны за змену, абслуга — 3 чалавекі. Герман Абель знаёміў тут, у «Мінскэкспа», з сасісачнай тэхналогіяй у рамках міжнароднай выстаўкі «Белагра-92», якая пачала працаваць пазаўчора і закончыцца 19 чэрвеня.

Зрэшты, скажам заадно і пра тэматыку выстаўкі. У спецыяльным праспекце пра яе сказана наступнае: абсталяванне па перапрацоўцы мясных прадуктаў, хлебапякарная тэхніка, перапрацоўка бульбы, крухмалу і збожжа, піваварныя заводы, перапрацоўка фруктаў і агародніны і г. д. Словам, тут з многіх краін, у тым ліку і СНД, прадстаўлена ўсё, што дапамагае збіраць, перапрацоўваць, упакоўваць сельскагаспадарчую прадукцыю, карацей — дастаўляць яе да стала з найменшымі стратамі і з найлепшай спажывецкай якасцю. Падобная выстаўка (дарэчы, ужо другая ў Беларусі) праводзіцца «Мінскэкспа» разам з германскай фірмай «Трэйдком» пры ўдзеле Міністэрства сельскай гаспадаркі рэспублікі і, як спадзяецца яго міністр (наконт чаго таксама зазначана ў тым жа праспекце), стане няхай невялікім, але цвёрдым крокам па шляху стварэння.

Гэтыя словы не могуць не выклікаць задавальнення, бо вельмі ж ужо добрыя былі сасіскі... Між іншым, пэўная інфармацыя да роздуму: мяса, з якога рабіліся сасіскі, аказваецца, наша, беларускае. І яшчэ: пан Герман Абель паспытаў нашы сасіскі, з нашых гігантаў-мясакамбінатаў. Аказваецца, як далікатна выказаўся ён, у іх сяго-таго не хапае, і ўвогуле — якасць перапрацоўкі не тая, яны не такія далікатныя.

**І. АЛЯКСАНДРАЎ.**

ВЕСТКІ З ПАРЛАМЕНТА

## ПРА НЯВОЛЮ І СВАБОДУ

### НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГ ПАСЛЯ ЎЧАРАШНЯГА ПАСЯДЖЭННЯ ПАРЛАМЕНЦКАЙ КАМІСІІ ПА ПЫТАННЯХ ГАЛОСНАСЦІ, СРОДКАЎ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ І ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

### 5000 «ЗЭКАЎ» ДЛЯ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ

Зусім магчыма, што ў хуткім часе турма, калонія ці следчы ізалятар стануць абавязковым атрыбутам кожнага больш-менш буйнога горада Беларусі. І справа не толькі ў тым, што злачыннасць у краіне набыла небывалыя раней маштабы і 31 установа з закратаванымі вокнамі, якая знаходзіцца на Беларусі, хранічна пакутуе ад перанаселенасці. Колькасць крымінальнікаў вырасце яшчэ і таму, што Расія ў бліжэйшы час збіраецца выслаць 5.000 зняволеных, якія адбывалі тэрмін на сібірскіх лесапавалах, але былі асуджаны ў свой час на Беларусі. Многа гэта ці мала? Раней у беларускіх турмах і калоніях адбывалі пакаранне не больш як 14 тысяч зняволеных. У апошнія гады гэта лічба вырасла да 18 тысяч. А тут яшчэ — павелічэнне больш як на чвэрць. Але і гэта, аказваецца, не мяжа. У хуткім часе хутчэй за ўсё захочуць пазбавіцца ад «зэкаў» беларускага паходжання Украіна і Казахстан. Можна ўявіць, як змена ў сацыяльнай структуры насельніцтва паўплывае ў будучым на грамадскі парадак. Гэта пры тым, што і цяпер шпацыраваць позна ўвечары па гарадскіх вуліцах зусім не бяспечна.

А што ж Беларусь? Няўжо ёй няма каго вярнуць у парадку абмену былым сёстрам па СССР? Як стала вядома ад намесніка начальніка МУС А. Валевіча, абмен гэты не можа быць раўнацэнным: лічбы, на жаль, несувымяральныя, — мы высылалі «зэкаў» намнога больш, чым атрымлівалі. Ды і тых нямногіх, аказваецца, на радзіму адправіць не так проста, — не дужа ахвотна расчыняюць перад імі там дзверы камер.

На пасяджэнні камісіі вялася размова ў асноўным аб тым, як прывесці беларускае заканадаўства ў гэтай галіне ў адпаведнасць з сусветнымі актамі аб правах чалавека. Але найбольш уражваючымі, на мой погляд, былі не развагі аб тым, чаму на Захадзе «зэк» адчувае сябе больш камфортна, чым у нас, — а менавіта прыведзеныя вышэй лічбы аб колькасці злачынцаў, якая ўвесь час расце.

Мяркуецца, што ў бліжэйшы час калоніямі і турмамі стануць дзесяць ваенных гарадкоў, якія цяпер вызваляюцца вайскоўцамі. МУС дадаткова просіць ад урада і паўмільярда рублёў на ўтрыманне гэтых устаноў.

У чым выйсце? Прадстаўнікі МУС у ліку іншых мер прапануюць павялічыць колькасць артыкулаў Крымінальнага кодэкса, якія б давалі права на ўмоўнае пакаранне або пакаранне з адтэрміноўкай. Для турэмнага начальства гэта, магчыма, і выйсце. А для нас? Вас усцешыць перспектыва сустрэчы ў цёмным завулку з умоўна асуджаным рабаўнікам ці насільнікам, месца якога — у турме?

### РУБЕЛЬ ЯК АДЗІНКА ВЫМЯРЭННЯ СВАБОДЫ ДРУКУ

Хутчэй за ўсё ўжо ў самым блізкім часе месца 1-га канала тэлебачання, якім ахоплена 98 працэнтаў тэрыторыі рэспублікі, зойме Беларускае тэлебачанне, якое не можа пахваліцца такой шырынёй ахопу. Астанкінская праграма пакуль што зойме месца беларускай. Аб гэтых планах гаварыў на пасяджэнні міністр інфармацыі А. Бутэвіч.

Міністр выказаўся супраць неадкладнага спынення трансляцыі расійскага тэлебачання. Гэты канал сувязі спатрэбіцца для таго, каб на яго базе ствараць 2-ю беларускую праграму, а таксама невялікія па аб'ёму вяшчання праграмы для нацыянальных меншасцей. З яго дапамогай можна будзе таксама прымаць праграмы замежных тэлекампаній.

А. Бутэвіч шмат гаварыў аб цяперашняй сітуацыі на Беларускім тэлебачанні і радыё, многія супрацоўнікі якога вельмі занепакоены атрыманымі паведамленнямі аб ліквідацыі структур ранейшага тэлерадыёкамітэта. Ці знойдзецца ім месца ў новых структурах? Міністр заспакоіў, што людзям творчым і ініцыятыўным баяцца няма чаго. Астатнія, зрэшты, таксама могуць не дужа хвалявацца, бо масавага звальнення, хутчэй за ўсё, не будзе. «Да механічнага скарачэння мы будзем ставіцца вельмі асцярожна», — паабяцаў міністр. А на заканчэнне тэмы з прыкрасцю заўважыў: «Хаця такой кансерватыўнай структуры, як тэлебачанне і радыё, я яшчэ не сустракаў».

Які лёс у беларускамоўных выданняў, што ў апошнія месяцы апынуліся на мяжы закрыцця з-за фінансавых цяжкасцей? Аказваецца, на сённяшні дзень праблема вырашана — прынамсі, да канца года боларускія газеты і часопісы падтрымлівацца дзяржавай будуць.

І. Сярэдзіч, галоўны рэдактар «Народнай газеты», выказаў занепакоенасць тым, што ўрад становіцца заснавальнікам усё большай колькасці выданняў — і такім чынам, на думку рэдактара, навязвае большасці масавых рэспубліканскіх газет сваю пазіцыю. Па звестках І. Сярэдзіча, новай «ахвярай» Савета Міністраў у бліжэйшы час стане «Знамя юности», якая да апошняга часу ганарылася сваёй незалежнасцю, але вымушана стаць на калені перад небяспекай блізкага фінансавага краху.

І. Сярэдзіч выказаўся за тое, каб парламент і ўрад пакінулі сабе толькі па адной газеце. Праблему фінансавання астатніх выданняў, на думку рэдактара парламенцкай газеты, павінна вырашаць Міністэрства інфармацыі.

Праўда, незразумела, чым залежнасць газет ад Міністэрства інфармацыі будзе больш прывабнай за залежнасць ад урада? Хіба гэта гарантуе большую свабоду?

**Валянцін ЖДАНКО, палітычны аглядальнік.**

